# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 12 ліпеня 1994 года | № 72 (10772) | Цана 200 руб.


## Аляксандр Лукашэнка — першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь



Прэзідэнцкі марафон у рэспубліцы прыйшоў, нарэшце, да свайго фінішу. І хоць канчатковыя даныя аб выніках галасавання другога тура прэзідэнцкіх выбараў Цэнтральная камісія паведаміць пазней, але ўжо цяпер можна сказаць зусім пэўна: у выніку ўсенароднага галасавання першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь выбраны Аляксандр Лукашэнка — народны дэпутат, старшыня "антыкарупцыйнай" парламенцкай камісіі, якому 30 жніўня споўніцца 40 гадоў.

Ашаламляльны поспех Аляксандра Лукашэнкі — так каменціруюць беларускія палітыкі і палітолагі вынікі прэзідэнцкага марафону. Згодна з папярэднімі данымі Цэнтральнай камісіі па выбарах першага Прэзідэнта Беларусі ў нядзелю за Аляксандра Лукашэнку аддалі свае галасы 81 працэнта выбаршчыкаў, за Вячаслава Кебіча — 14,2 працэнта. Цікава, што Аляксандр Лукашэнка ў другім туры набраў 4,2 мільёна галасоў, што амаль на паўтара мільёна больш, чым у першым туры, які праводзіўся 23 чэрвеня. У сямі раёнах Магілёўскай вобласці, дзе Аляксандр Лукашэнка нарадзіўся, ён набраў па 90 і больш працэнтаў галасоў. Усяго ж у выбары першага беларускага Прэзідэнта ўдзельнічала 69,9 працэнта грамадзян рэспублікі, унесеных у выбарчыя спісы. Гэта лічба некалькі ніжэйшая, чым у першым туры, але сведчыць аб высокай актыўнасці людзей.

Так што прагнозы некаторых скептыкаў, быццам людзі другі раз ужо не прыйдуць на выбарчыя ўчасткі, не спраўдзіліся. На Брэстчыне, напрыклад, ужо да 13 гадзін прагаласавала палавіна выбаршчыкаў. Вялікую актыўнасць тут праявілі жыхары сельскіх раёнаў, у некаторых з іх свой выбар на гэтую гадзіну зрабілі да 60 працэнтаў выбаршчыкаў.

К 15 гадзінам ужо можна было адназначна сказаць: другі тур прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі адбыўся. Да гэтага часу свой грамадзянскі абавязак выканалі 52,5 працэнта выбаршчыкаў рэспублікі, якія маюць права голасу.

За ходам правядзення другога тура галасавання мелі магчымасць назіраць ва ўсіх рэгіёнах рэспублікі замежныя наглядальнікі. Так, прадстаўнікі ЗША наведалі ўчасткі ва ўсіх абласцях і сталіцы. Прадстаўнікі Расіі вырашылі ацаніць дэмакратычнасць выбараў беларускага Прэзідэнта па ўбачанаму на выбарчых участках Брэсцкай вобласці, а наглядальнікі з Англіі — Віцебскай. На Гомельшчыне прысутнічалі наглядальнікі з Польшчы і Малдовы. Дарэчы, прадстаўнікі Малдовы, а разам з імі — наглядальнікі з Турцыі і Румыніі, знаходзіліся ў гэты дзень і ў беларускай сталіцы.

Як паведамілі ў прэс-групе кандыдата ў Прэзідэнты рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі, 20000 наглядальнікаў ад яго каманды — па два прадстаўнікі на кожным участку — прынялі ўдзел у назіранні за законнасцю арганізацыі галасавання і падвядзення яго вынікаў.

Сам Аляксандр Лукашэнка галасаваў у Шклове.

У 10 гадзін раніцы кандыдат у Прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка прагаласаваў у шклоўскай сярэдняй школе №1 разам са сваім сынам Віктарам, выпускніком гэтай жа школы, цяпер студэнтам Белдзяржуніверсітэта. Карэспандэнт Белінфарма ўзяў тады ж у кандыдата эксклюзіўнае інтэрв"ю. У прыватнасці, Аляксандр Лукашэнка сказаў, што ў выпадку яго выбрання на пасаду кіраўніка дзяржавы, прыярытэтам знешняй палітыкі краіны будзе стаўка на эканамічнае супрацоўніцтва і дружбу Беларусі з Расіяй."У Расіі акно на Захад выходзіць праз Беларусь. Я ўпэўнены, што Расія зацікаўлена плённа і на ўзаемавыгаднай аснове супрацоўнічаць з намі", — сказаў Лукашэнка. Ён адзначыў, што яго каманда сустракалася з людзьмі, блізкімі да Прэзідэнта Барыса Ельцына, і знайшла ў гэтым пытанні ўзаемаразуменне і падтрымку. Адказваючы на пытанне, якія змены А.Лукашэнка плануе зрабіць у Саўміне, і як хутка яны пачнуцца ў выпадку выбрання яго Прэзідэнтам, кандыдат сказаў наступнае:

"Змены ва ўрадзе прадугледжваюцца радыкальныя. І адразу ж пасля прыняцця прэзідэнцкай прысягі. Але сумленныя людзі застануцца працаваць. Адназначна магу сказаць, што застануцца віцэ-прэм"еры Іван Кенік і Сяргей Лінг".

Аляксандр Лукашэнка заявіў таксама, што мае намер супрацоўнічаць з усімі партыямі і рухамі.

Як паведаміў карэспандэнту Белінфарма прэс-сакратар другога кандыдата ў Прэзідэнты — Вячаслава Кебіча, прэм"ер-міністр збіраўся наведаць выбарчы ўчастак па месцы жыхарства з 17 да 18 гадзін.

Галасаванне грамадзян за першага беларускага Прэзідэнта праходзіла ў гэты дзень у спакойнай, дзелавой атмасферы. Паводле даных прэс-службы Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі, на 19.00 ніякіх сур"ёзных здарэнняў, звязаных з выбарамі, не адбылося. Работнікамі органаў унутраных спраў вялася звычайная работа па ахове правапарадку, і такі значны для далейшага лёсу рэспублікі дзень не прынёс у гэтую работу дадатковых ускладненняў.

Удакладненыя вынікі галасавання Цэнтрвыбаркам паведаміць на працягу бліжэйшых дзесяці дзён /у першым туры на гэта пайшоў тыдзень/, а прысягу Аляксандр Лукашэнка прыме на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета, якое павінна быць праведзена на працягу двух месяцаў. Як паведаміў карэспандэнту Белінфарма Старшыня Цэнтрвыбаркама Аляксандр Абрамовіч, Прэзідэнт афіцыйна ўступае на пасаду толькі з моманту прыняцця прысягі.

Паўнамоцтвы ж Прэзідэнта — кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады вельмі шырокія: ён — галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі Беларусі, кіруе сістэмай органаў выканаўчай улады, выступае са зваротамі да народа і Вярхоўнага Савета. Аднак не трэба думаць, што Прэзідэнт, як кажуць, і бог, і цар, і воінскі начальнік. Напрыклад, назначэнне і вызваленне прэм"ера, яго намеснікаў, "сілавых" міністраў, а таксама міністраў замежных спраў і фінансаў без згоды парламента ён рабіць не можа.

Прэзідэнт можа быць зняты са сваёй пасады ў трох выпадках: парушэнне Канстытуцыі, учыненне злачынства, немагчымасць выканання ім сваіх абавязкаў па стану здароўя.

Свайго "Белага дома" ў сталіцы Беларусі няма, але месца знаходжання першага Прэзідэнта ўжо вызначана. Як высветліў карэспандэнт Белінфарма ў Вярхоўным Савеце Беларусі, Прэзідэнт і яго апарат размесцяцца, хутчэй за ўсё, у Доме ўрада, на плошчы Незалежнасці ў цэнтры Мінска.

*БЕЛІНФАРМ.*

**ФАКТЫ • ПАДЗЕІ • АРГУМЕНТЫ • МЕРКАВАННІ**

## ПА ЗАПРАШЭННЮ

часовага паверанага ў справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь з нагоды святкавання дня незалежнасці Злучаных Штатаў дэлегацыя ад Заслаўя наведала амерыканскае пасольства з візітам у адказ.

Бо крыху раней спадар Джордж Крол пабываў у старажытным горадзе. Адбылася зацікаўленая гутарка з кіраўнікамі і прадстаўнікамі мясцовай улады. Часовы паверараны сустракаўся з заслаўскай інтэлігенцыяй. Ён зазірнуў у нядаўна адкрыты цэнтр адпачынку "Світанак", пабываў у сярэдняй школе № 1, а таксама ў доме творчасці для дзяцей, дзе атрымаў у падарунак цудоўныя цацкі, зробленыя рукамі заслаўскіх хлопчыкаў і дзяўчынак.

Джордж Крол наведаў Спаса-Прэабражэнскую царкву і зрабіў ахвяраванне. Агледзеў і іншыя мясціны, звязаныя з заслаўскай даўніной і гісторыяй.

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*

## ГОД АХОВЫ ПРЫРОДЫ

У адпаведнасці з Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь 1995 год аб"яўлены годам аховы прыроды ў Еўропе. Ён прадугледжвае шэраг прыродаахоўных мерапрыемстваў: укараненне перадавых тэхналогій на прадпрыемствах, правядзенне экалагічных месячнікаў і іншыя.

Створаны абласны камітэт па правядзенню Года аховы прыроды. Яго ўзначаліў намеснік старшыні аблвыканкома В.Майко. Аналагічныя камітэты будуць створаны пры гарадскіх і раённых Саветах дэпутатаў.

*/Наш кар./.*

■ Спажывецкая кааперацыя

## АГЛЯД-КОНКУРС МАГАЗІНАЎ

***Гандляроў апошнім часам развялося, можна сказаць, больш, чым трэба. Але для вяскоўцаў сёння адзінай арганізацыяй гандлёвага абслугоўвання была і застаецца спажывецкая кааперацыя. А ў некаторых населеных пунктах магазіны з'яўляюцца, бадай, адзіным месцам, дзе сустракаюцца іх жыхары. І ад таго, як там сустрэнуць і абслужаць, у многім залежаць настрой вяскоўцаў, іх працоўная актыўнасць.***

Добра разумеючы гэтую акалічнасць, кіраўніцтва Барысаўскага райспажыўсаюза і прыняло рашэнне аб правядзенні ў раёне агляду-конкурсу па падрыхтоўцы прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання да работы ў вясенне-летні перыяд. Загадзя былі аб'яўлены яго ўмовы з тым, каб быў час падрыхтавацца.

Для падвядзення вынікаў агляду-конкурсу былі створаны спецыяльныя камісіі, у састаў якіх, акрамя работнікаў райспажыўсаюза, увайшлі і прадстаўнікі санітарна-эпідэміялагічнай службы раёна. Па чатырох маршрутах было праверана 186 магазінаў і паўтара дзесятка сталовых. Звярталася ўвага як на знешні выгляд гандлёвых кропак, добраўпарадкаванасць тэрыторыі, так і на санітарны стан гандлёвых залаў, падсобных памяшканняў, абсталявання. Улічваліся наяўнасць зацверджанага асартыментнага пераліку тавараў, іх выкладка на прылаўках і размяшчэнне ў падсобных памяшканнях, афармленне цэннікаў, інфармацыі для пакупнікоў, усёй неабходнай дакументацыі.

Як зазначыла намеснік старшыні райспажыўсаюза па гандлю Ніна Дзівін, падобны конкурс стаў у раёне традыцыйным, але сёлета да яго падрыхтаваліся асабліва дбайна і работнікі сельскіх спажывецкіх таварыстваў, і прадаўцы, таму ўсе правераныя магазіны былі прыняты, што называецца, з першага заходу. А раней бывалі выпадкі, калі даводзілася даваць тэрмін на ліквідацыю недахопаў не толькі асобным гандлёвым кропкам, а нават сельпо.

Па выніках праверкі камісія аддала перавагу Кішчына-слабодскаму спажывецкаму таварыству, якое ўзначальвае Настасся Механікава. Другое месца заняло Прыгараднае сельпо на чале з Галінай Дарафеевай. Трэцяе месца дасталося Лошніцкаму спажывецкаму таварыству, старшынёй якога з'яўляецца Валянцін Гаўрыльчык.

— Правядзенне конкурсу дало магчымасць не толькі палепшыць стан нашых магазінаў, але і павысіць культуру абслугоўвання сельскага насельніцтва, а таксама папоўніць асартымент тавараў, — дадае Ніна Уладзіміраўна. — У час праверкі мы здымалі некаторыя магазіны на відэакасету і збіраемся паказаць усё гэта на семінары прадаўцоў з тым, каб іншыя маглі пераняць лепшы вопыт.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## ЕДУЦЬ ДАЧНІКІ Ў СТОЎБЦЫ

Калі вы хоць раз у выхадныя дні ехалі на электрапоездзе з Мінска ў бок Баранавічаў, дык, вядома ж, бачылі, як недалёка ад Стоўбцаў з вагонаў выходзяць цэлыя натоўпы людзей. З рукзакамі, рыдлёўкамі, граблямі. Дачныя "мікрараёны" раскінуліся ўздоўж чыгункі. Ёсць сціплыя "хаткі", а ёсць і трохпавярховыя катэджы. Паспрабуй тут разбярыся, хто за якія сродкі будаваўся. Хаця ніхто і не бярэцца даказваць гэта. Ну што ж, няхай "жыве і гадуецца" сумленны дачнік, няхай хоць глытне ў выхадныя чыстага паветра.

Загадчык аддзела па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню Стаўбцоўскага райвыканкома І.І.Магер зазначае:

— У раёне шмат дачных участкаў. Амаль пяцьдзесят прадпрыемстваў і арганізацый Мінска пусцілі тут карані. Асабліва на землях калгасаў "Праўда", "Чырвоны Кастрычнік". Ім адведзена пад "шнуркі" пяцьсот гектараў. Найбольшая колькасць ахвотнікаў мець свой "шалашык" (так часта называюць тут нават катэджы) — з "Інтэграла", трэста "Белтрансбуд", аб"яднання "Мінскліфт" і іншых калектываў.

Паводле слоў І.І.Магера, часта мясцовыя мужыкі дзівяцца рупнасці і апантанасці дачнікаў. Бо ля іх "шалашыкаў" зямля настолькі апрацаваная, дагледжаная, што нагадвае райскі куток. Хоць ёсць, вядома, і такія "турысты", што толькі "жывот грэюць на сонцы".

Раёну няшмат карысці ад гараджан-забудоўшчыкаў. Іх не "падключыш" да працы ў час "пік" — уборкі ўраджаю або нарыхтоўкі фуражу. Ёсць выпадкі, калі той-сёй "прыхоплівае" сотку-другую чужой зямлі. Аднак большасць — людзі сумленныя, радуюцца цудам прыроды, вырошчваюць для сябе агародніну, садавіну. Грыбнікі "шнуруюць" па коласаўскіх мясцінах. Многія суткамі сядзяць з вудамі на Нёмане.

Давялося пачуць: "Трэба было ўжо даўно даць гараджанам па кавалачку зямлі. Тады б не былі ў дэфіцыце бурак, морква, бульба". Што ж, залатыя словы.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*





Міжкалгаснае акцыянернае прадпрыемства "Капыльскае" славіцца стабільнасцю ў раёне. Калектыў пастаянна нарошчвае вытворчасць свініны. Акрамя таго, тут дзейнічаюць падсобныя цэхі, дзе вырабляюць каўбасы, вяндліну, іншыя прысмакі, а таксама сталярныя блокі, шыюць адзенне.

**На здымках:** загадчыца стала заказаў Валянціна **Чэрнік** прапануе прадукцыю вэнджальнага цэха; жывёлаводы прадпрыемства Ніна **Кавалеўская,** Мікалай **Данілін,** Ганна **Шахоўская,** Аляксандр **Шахоўскі,** Валянціна **Марчык,** Тамара **Гарашчэня,** Ніна **Фінке;** бухгалтар Жанна **Клішэвіч** і інжынер па быту Людміла **Дземянкова** з абноўкамі, пашытымі ў швейным цэху.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## Дзіцячы фонд — навучэнцам

Аксана Адамейка нарадзілася ў пасёлку Краснае Маладзечанскага раёна. Але лёс павярнуўся да яе далёка не лепшым бокам. Памёр бацька. Маці пацягнулася да чаркі. Дайшло да таго, што яе пазбавілі бацькоўскіх правоў. Дзяўчынка апынулася ў Станькаўскай школе-інтэрнаце, якую закончыла на "добра" і "выдатна". Цяпер яна вучыцца на повара ў Вілейскім ПТВ-48.

— У калектыве яе паважаюць, лічацца з яе думкай. Аксана шмат чытае мастацкай і спецыяльнай літаратуры. У групе з"яўляецца фізоргам. Гэта будзе добры спецыяліст сваёй справы, — зазначыў дырэктар гэтага вучылішча В.В.Харужы.

Прэзідыум абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду прысудзіў Аксане Адамейка заахвочвальную стыпендыю ў суме 150 тысяч рублёў.

Такія ж заахвочвальныя стыпендыі атрымаюць навучэнка Уздзенскага ПТВ-210 Святлана Калеснік і навучэнец Анатоль Самойлаў з Жодзінскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча №149.

Гэтым жа рашэннем прысуджаны заахвочвальныя стыпендыі навучэнцы Смілавіцкага саўгаса-тэхнікума Ларысе Віхровай і навучэнцу Маладзечанскага палітэхнікума Сяргею Янчукоўскаму. Іх размер — па 180 тысяч рублёў.

*(Наш кар.).*



### НАДВОР"Е

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца невялікая воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра 25—30, у Мінску — 27—29 градусаў цяпла.*

*У сувязі з сухім і спякотным надвор"ем зноў рэзка ўзрастае верагоднасць пажараў. Будзьце ўважлівыя, карыстаючыся агнём у месцах адпачынку, не пакідайце без нагляду распаленыя кастры, захоўвайце меры пажарнай бяспекі.*

**Рэха вогненнай бяды**

## ЗАДЫХНУЛІСЯ Ў ДЫМЕ

Пажарнае падраздзяленне Бярэзінскага раёна атрымала трывожны сігнал.

Гарэў дом па вуліцы Пралетарскай. Нягледзячы на зладжаныя дзеянні пажарных, выратаваць жыццё гаспадароў дома не ўдалося. Муж і жонка Цімашэнкі задыхнуліся ў дыме.

Ці была магчымасць пазбегнуць няшчасця? На гэтае пытанне адкажа следства.

## ПАКІНУЛІ БЕЗ НАГЛЯДУ

Дзве пажарныя машыны былі накіраваны ў вёску Галынка Клецкага раёна. Тут загарэлася надворная пабудова трактарыста калгаса «Камунар» А.В.Куніцкага. Гаспадар распаліў кацёл і пакінуў яго без нагляду.

Па гэтай жа прычыне задыміўся хлеў у вёсцы Барсукі Смалявіцкага раёна. Жывёлавод эксперыментальнай базы «Жодзіна» П.І.Зязюля таксама не надаў значэння мерам перасцярогі. Толькі сёлета з-за невыканання правіл пажарнай бяспекі ўзнікла 276 пажараў у дамах і пабудовах жыхароў Міншчыны.

## НЯЎДАЛАЯ СПРОБА

Усю ноч набіраў сілу агонь у лазні-сауне піянерскага лагера «Зубраня», што на Мядзельшчыне. Толькі пад раніцу людзі заўважылі небяспеку. Аператыўны дзяжурны пажарнай службы раёна П.І.Гудкоў правільна ацаніў абстаноўку. У складзе звяна газадымаахоўнікаў разам з ім працавалі пажарныя Ф.П.Казлоўскі і У.Б.Чарняўскі. Тушыць такія пажары вельмі складана і небяспечна. Ёсць і трагічныя выпадкі.

На гэты раз пажар узнік ад няспраўнасці электраабсталявання ў парылцы. Ад перагрэву электратэнаў успыхнула сухая драўніна.

Лазня-сауна ўведзена ў строй без узгаднення з работнікамі дзяржаўнага пажарнага нагляду. Рызыка з боку кіраўнікоў лагера сябе не апраўдала. Агонь не даруе нядбайнасці.

## У КЛУБЕ МУЗЫКА НЕ ГРАЕ

Яшчэ ў сакавіку гэтага года абласное ўпраўленне ваенізаванай пажарнай службы забараніла эксплуатацыю клуба на станцыі Бобр Крупскага раёна. Справа ў тым, што памяшканне, якое належыць мясцоваму заводу музычных дэталей, знаходзілася ў нездавальняючым супрацьпажарным стане. Кіраўніцтва завода не паклапацілася аб тым, каб своечасова ліквідаваць недахопы. Нейкі час будынак знаходзіўся без нагляду. Агонь, які ўспыхнуў у клубе, нарабіў бяды. Па гэтаму здарэнню вядзецца следства. Хоць у клубе музыка не грае, але моладзь па-ранейшаму збіраецца тут.

## ВОСЬ ДЫК ПАКУРЫЎ!

Калі пажарныя падраздзяленні прыехалі ў вёску Блужа Пухавіцкага раёна, то ні дыму, ні агню ўжо не было. Толькі натоўп людзей стаяў ля хаты аднавяскоўца П.Ф.Кульбіцкага. Між тым пярэпалах учыніў сам гаспадар. Недакураную цыгарэту ён схаваў у кішэні — для другога разу, павесіў вопратку на вешалку. Праз некаторы час загарэліся хатнія рэчы. Полымя дапамаглі патушыць суседзі, але для страхоўкі выклікалі пажарную службу.

## ЗАПАЛКІ — НЕ ЦАЦКІ

Днём успыхнуў гараж у вёсцы Боханы Стаўбцоўскага раёна, у якім знаходзіўся «Запарожац». У выніку пажару ад машыны ў гаспадыні С.П.Вахнер засталіся адны ўспаміны. Сямігадовы Саша і не разлічваў, што ад маленькай іскры будзе шмат бяды.

Дарэчы, у час школьных канікулаў колькасць пажараў ад дзіцячага свавольства з агнём значна павялічылася, асабліва ў сельскай мясцовасці.

*Фёдар САГАНОВІЧ, супрацоўнік УУС аблвыканкома.*

■ Партрэт у інтэр"еры

**Выпадак у нейкім сэнсе унікальны: першыя роды ў якасці акушэркі Ніна Целябук прыняла зусім яшчэ дзяўчынкай — у 17 гадоў.**

**Запомніліся і другія. Да бальніцы даехаць не паспелі. Было тое ў дзень выбараў у Вярхоўны Савет краіны — 17 сакавіка 1961 года. Гэта і сёння памятае галоўны ўрач Жодзінскага гарадскога тэрытарыяльна-медыцынскага аб"яднання, акушэр-гінеколаг Н.П.Целябук.**

## *Ніна Целябук:*
# ПРОСТА Я ЛЮБЛЮ СВАІХ ЖАНЧЫН

Маладая мама з каляскай, якую я выпадкова сустрэла на адной з вуліц Жодзіна, сказала: "Без яе я свайго сына і не нарадзіла б".

— Зусім я не анёл,— усміхаецца Ніна Пятроўна.— Проста люблю сваіх жанчын, сваіх пацыентак, спачуваю ім. Іншая справа — персанал. Ба-

Зрэшты, унікальнага ў яе біяграфіі хапае. Я, напрыклад, менавіта так расцэньваю і наступны факт. Чатыры гады назад, заняўшы цяперашнюю пасаду, жанчына /маючы ўжо адну вышэйшую адукацыю, багаты ўрачэбны вопыт ды далёка не студэнцкія гады/ паступіла на планава-эканамічны факультэт інстытута народнай гаспадаркі. Завочна. На спецыяльнасць "эканамічнае кіраванне вытворчасцю".

— Спалохалася, — удакладняе Ніна Пятроўна,— што пры маіх эканамічных ведах пакіну падначаленых без зарплаты.

Нікому пра ўласны "лікбез" не расказвала. Паціху, за кошт чарговых водпускаў, ездзіла на сесіі, здавала экзамены. Нядаўна першы раз за апошні час "вырвалася" адпачыць па-сапраўднаму: узяла водпуск за мінулы год. Аднак усё роўна дома ёй не сядзіцца.

— Заўтра трэба ў бальніцу забегчы,— разважае мая субяседніца.— Там дзяўчыну цяжкую прывезлі.

Так што я зусім не здзівілася, пачуўшы шмат эпітэтаў у "высокім штылі" ў адрас Ніны Пятроўны Целябук . Гэта, маўляў, наш "залаты фонд", калі яго раскідаем — з кім застанёмся? І "ўрач — ад Бога". І "ва ўсім умее знайсці сваю разыначку".

Адна жанчына прызналася: "Упершыню сустрэла ўрача, які ў час абходу нікуды не спяшаецца. Пра старэйшых дзяцей у мяне распытала, пра мужа".

чу, што чалавек несумленны, лайдачыць — не прамаўчу.

Крыху падумаўшы, яна дадае: "Беспрацоўе — дрэнная з"ява. Але ў яе аказаўся свой плюс. Санітарак, напрыклад, цяпер мы маем магчымасць выбіраць. Прыходзіць да мяне нядаўна знаёмая жанчына, просіцца на работу. Раней бы я за яе абедзвюма рукамі ўхапілася — не было каму працаваць. А цяпер: "Не вазьму. Самі ведаеце чаму".

Гаспадарка ў Ніны Пятроўны вялікая, раскіданая і па Жодзіне, і па раёне: гарадская і Зеленаборская гарпасялковая бальніцы, станцыя хуткай дапамогі, гарадская і стаматалагічная паліклінікі, ФАПы. Звыш 1.200 працуючых. Як упраўляецца з ёю галоўны ўрач пры такім недахопе лекаў, бензіну і яшчэ Бог ведае чаго?

— Гарвыканком, кіраўнікі мясцовых прадпрыемстваў заўжды дапамагаюць, — тлумачыць Н.Целябук.

Для сябе зазначаю: жанчына спрабуе "стушаваць" уласныя заслугі. Нічога не зробіш — вось такая сціплая нарадзілася! Аднак ужо ведаю: спраўляецца яшчэ і таму, што сябе не шкадуе. Дзяжурыць па двое сутак. Ускоквае, калі трэба, па начах. Бывае, у час аперацыі самой доктарцы робяць укол: сэрца не вытрымлівае. Ды і не дзіўна! Усё яе сэрца на сябе прымае — і чужыя праблемы,і чужы боль.

— Мне заўжды шкада дзяўчынак, якія трапілі ў банальную, але ад гэтага не менш трагічную сітуацыю: непажаданая цяжарнасць. У юным узросце, без мужа,— уздыхае Ніна Пятроўна.— Замужняй жанчыне ўсё ж лягчэй. Можа паплакацца на плячы ў маці, мужу расказаць. А дзяўчынка? Маці баіцца. Сяброўак — таксама...

Раней Н. Целябук упрошвала-ўмольвала адмовіцца ад ракавога кроку жанчын, якія не жадалі забіраць свайго малыша. Потым, з набыццём жыццёвага вопыту, тактыку змяніла. Зразумела, што "зязюлі", п"яніцы ды на іх падобныя бываюць часцей за ўсё дрэннымі мамамі. І малышу лепш нават з чужымі людзьмі, якія робяцца для яго сапраўднымі бацькамі.

— Нядаўна адна жанчына кранула мяне да слёз,— успамінае Ніна Пятроўна.— Прыйшла яна забіраць дзіця, якое ўсынавіла. І кажа:" Усю ноч не спала. Баялася, што забяруць майго Паўліка". Я адчула: яна будзе для хлопчыка добрай маці.

Ніна Пятроўна светла і радасна ўсміхаецца. Відаць, з такой жа ўсмешкай яна кожны раз першая трымае на руках маленькага чалавечка, які толькі-толькі ўвайшоў у наш неспакойны свет.

Я не задаю жанчыне стандартнага журналісцкага пытання : як яна ўсюды паспявае? /А Н.Целябук яшчэ — дэпутат абласнога Савета, вядзе заняткі ў Жодзінскай жаночай гімназіі/. Бо Ніна Пятроўна ўжо прызналася мне, што не хапае яе менавіта на хатнія справы, дзяцей. Аднак сын і дачка выраслі добрымі людзьмі, ніколі не ведала яна з імі ніякіх бед. Думаю, у многім таму, што мелі дзеці Ніны Пятроўны перад вачыма ўзорны прыклад — маці. Бачылі яе любоў да людзей, да справы.

*Наталля ТУМАР.*
*г.Жодзіна.*

# Чатырнаццацігадовы баяніст,

### *які не толькі пакарыў музычную Еўропу, а і атрымаў яшчэ 15 тысяч марак*

Аднымі з першых Максіма Ракача і яго настаўніка Леаніда Рауцкага павіншавалі з перамогай на конкурсе французы.

— Мы хацелі б запрасіць Максіма на гастролі. Назавіце свой адрас, — сказалі яны.

— Горад Салігорск. Беларусь, — адказала перакладчыца.

— Беларусь... Гэта што, каля Расіі? — удакладнілі субяседнікі.

Так чатырнаццацігадовы Максім многім замежным музыкантам нагадаў аб Беларусі, прымусіў маскоўскіх, пецярбургскіх, украінскіх спецыялістаў глянуць на карту — а дзе ж знаходзіцца Салігорск? Бо менавіта з гэтага невялікага гарадка, далёкага ад музычных цэнтраў, прабіўся ў Германію на вельмі прэстыжны конкурс музыкантаў Максім Ракач. Ды не проста прабіўся, а стаў яго пераможцам у сваёй узроставай групе. Па балах ён даволі адчувальна адарваўся ад сваіх канкурэнтаў, заваяваўшы важкі прыз — 15 тысяч дойчмарак. На гэтым конкурсе дэманстравалі сваё майстэрства найбольш таленавітыя дзеці з Францыі і Германіі, Югаславіі і Фінляндыі, Іспаніі і Украіны, Польшчы і Літвы...

Трапіў на конкурс Максім не выпадкова. З розных аглядаў і конкурсаў ён прывозіў дыпломы лаўрэата: двойчы перамагаў у рэспубліканскім конкурсе імя Жыновіча, прызнаваўся лепшым на міжнародных конкурсах у Балгарыі, Санкт-Пецярбургу. І ў Германіі Максім выконваў не "чыжыка-пыжыка", а абавязковую п'есу нямецкага кампазітара, праграмную сюіту, фугу. Пасля першага тура, у якім удзельнічалі 15 юных музыкантаў, многія паказвалі на Максіма: вось ён, будучы лаўрэат! Сапраўды, хлопчык адыграў абавязковую праграму на высокім прафесійным узроўні. Пасля другога тура вопытныя спецыялісты зрабілі заключэнне: выканаўчае майстэрства Ракача адпавядае ўзроўню выпускніка музычнага вучылішча.

Між тым, Максім толькі заканчвае Салігорскую дзіцячую музычную школу. Хаця займацца музыкай, вобразна кажучы, ён пачаў з пялёнак. Маці яго, Людміла Аляксандраўна, даўно і выдатна іграе на акардэоне, бацька, Аляксандр Аляксандравіч, — на баяне. Яшчэ за тры гады да нараджэння сына абое пачалі вучыць музыцы салігорскіх дзяцей. І з таго часу не кідаюць любімай справы. Тым не менш, бацька не стаў займацца з Максімам, а перадаў яго Л.А.Рауцкаму. Чаму?

— Бо я бачыў, што Леанід Аляксандравіч дасць сыну больш, чым я, — адказаў А.А.Ракач. — Ён, безумоўна, лепшы выкладчык па класу баяна ў вобласці, а, магчыма, і ў рэспубліцы. Што красамоўна даказала іх перамога на апошнім, прэстыжным конкурсе ў Клінгенталі.

Сам Л.А.Рауцкі лічыць так:

— Нашай перамозе ў першую чаргу садзейнічалі выдатныя музычныя здольнасці Максіма. А яшчэ больш — выключная працавітасць. Не кожны ў яго ўзросце зможа выседзець за інструментам 6—7 гадзін у суткі.

А Максім? Ён, вядома, ганарыцца атрыманым дыпломам, які, да таго ж, дае права без экзаменаў паступаць у музычнае вучылішча. Што хлопчык і думае выкарыстаць, бо сёлета заканчвае дзевяты клас сярэдняй школы № 11. Пазней — магчыма і кансерваторыя. А пакуль што — экзамены ў школе. І, вядома, ігра на любімым пяціраадковым баяне. Для сябе. Для блізкіх. Для зусім незнаёмых слухачоў з навакольных гарадоў, перад якімі чатырнаццацігадовы лаўрэат розных конкурсаў Максім Ракач даволі часта выступае з сольнымі канцэртамі.

А ў заключэнне — аб людзях, зусім не музыкантах, але без якіх Максім ніяк не мог бы стаць пераможцам міжнароднага конкурсу. Нават трапіць на яго. Гэта — кіраўніцтва "Беларуськалія", малых прадпрыемстваў "Гном", "Ікор", "Лотас", сялянскай гаспадаркі "Колас", прыватны прадпрымальнік Булатаў. Гэта яны сабралі грошы на паездку здольнага хлопчыка ў Германію. Вельмі прыемна, што не збяднела зямля беларуская на людзей, таленавітых, шчодрых душою.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*







*Минский молочный завод №1 в декабре минувшего года отметил свое 65-летие. Недавно предприятие начало работу на новых производственных площадях в светлом, просторном корпусе, расположенном в Дражне. На заводе смонтировано новейшее оборудование с современной системой автоматического управления технологическими процессами. Сейчас здесь идет освоение выпуска продукции: творожно-сырковых изделий и сметаны.*

***На снимках:** оператор системы автоматического управления технологическими процессами Елена **Пашукевич**; линия по производству творога; участок пастеризационно-охладительных установок.*

*Фото Михаила МИНКОВИЧА.*

# ПІШЫЦЕ ПРА МОЛАДЗЬ. І ФЕЛЬЕТОНЫ

Я заўжды з задавальненнем чытаю «Мінскую праўду»./Ды,думаю, не я адзін/. Лічу, гэта — высокая ёй рэкамендацыя. Таму не буду спыняцца на станоўчым, скажу пра тое, што, на маю думку, неабходна папраўляць.

Найперш трэба журналістам больш увагі ўдзяляць праблеме выхавання моладзі, пісаць пра яе клопаты і радасці.

Яшчэ не пашкодзіла б на старонках газеты часцей абмяркоўваць пытанні работы аўтатранспарту ў вобласці. Балючая гэта для ўсіх нас рэч! Неабходна друкаваць і больш артыкулаў аб добраўпарадкаванні нашых гарадоў і вёсак. Бо многія з іх у апошні час страчваюць свой сімпатычны твар.

Малавата ў абласной газеце, па-мойму, і фельетонаў, крытычных матэрыялаў.

*Генадзь Дурэйка.*
*Вілейскі раён.*

■ Памяць

# НАД "ВАРШАЎКАЙ", ПАД СЛУЦКАМ

**У дзяцінстве здараюцца падзеі, якія на ўсё астатняе жыццё пакідаюць такі яркі след, такі "усплёск" пачуццяў у памяці і сэрцы, што і праз дзесяцігоддзі яны застаюцца непаўторным святам. Для мяне, як і для многіх, ім стаў дзень, калі на маю родную Случчыну вярнуліся савецкія воіны.**

На досвітку мяне разбудзіла кулямётная страляніна, гулкія залпы гарматы, выбухі снарадаў. Над галавой заціўкалі кулі, людзі разбегліся. А потым страляніна сціхла. З вёсачкі Малая Сліўка прыйшла бабуля і сказала, што там ужо нашы салдаты.

Такая радасць на сэрцы! Тры гады мы чакалі воінаў-вызваліцеляў. І вось яны ўжо ў дванаццаці кіламетрах ад Слуцка. Адтуль даносяцца знаёмыя раскаты бомбавых выбухаў. А вунь і самалёты паказаліся на гарызонце. Каля дзесяці. Ляцяць на ўсход, крыху вышэй — чатыры знішчальнікі прыкрыцця. То нашы штурмавікі «Іл-2" на чыгуначнай станцыі Слуцка бамбілі нямецкія эшалоны. Ад агню зенітак страцілі адну машыну з экіпажам.

Дома расказваю аб пачутым у Малой Сліўцы бацькам, сябрам на вуліцы. Над вёскай на невялікай вышыні робіць віраж нямецкі самалёт — тупарылы, хуткасны. Аблятае суседнія вёскі. Разведчык, значыць. Чакай прылёту бамбардзіроўшчыкаў. Тым часам нямецкая артылерыя з прыгарада . Слуцка адкрывае агонь шрапнельнымі снарадамі па кацярынінскаму шляху. Нізка над зямлёй успыхваюць белажоўтыя воблачкі. Мінут праз дваццаць над вёскамі Бліжнія Бандары і Казловічы паяўляецца дзесяць варожых самалётаў. Па іх ліхаманкава б"юць нашы зеніткі. Але сцярвятнікі, скінуўшы свой груз, зноў групуюцца і адлятаюць. Гадзіны праз дзве паяўляецца новая дзесятка — і самалёт за самалётам зрываюцца ў піке. Ну, як у сорак першым, калі у нас не хапала самалётаў, а нямецкія літаральна віселі над галовамі адступаўшых чырванаармейцаў.

...Маці кліча мяне з вуліцы абедаць. Маўляў, хопіць сачыць за самалётамі, няўжо табе яны не надаелі. Саджуся за стол — і раптам з боку вёскі Вясея (туды ад нашай па прамой — сем кіламетраў) даносіцца грукат бомбавых выбухаў. Дрыжаць шыбы ў вокнах, уздрыгвае на стале посуд. Куляй вылятаю на вуліцу. Так і ёсць: у тым баку пікіруюць на шашу «варшаўку» ужо знаёмыя «фокеры» — штук дзесяць. Нават бачна, як з іх «падбрушша» зрываюцца чорныя кроплі бомбаў і нясуцца да зямлі.

Пазней стала вядома, што аднаго сцярвятніка нашы зенітчыкі ўсё ж збілі і ён упаў каля вёскі Ізбудзішча. Але вораг нанёс значныя страты наступаўшым коннікам Пліева, танкістам, былі там параненыя і забітыя.

Толькі паспеў паабедаць, як мой малодшы брат прыбег з вуліцы з крыкам: «Немцы! Уцякайце!». Па вуліцы . рыссю пранесліся дзве параконныя павозкі з кухнямі. За аселіцай спыніліся, бо мосцік праз канаву партызаны паспелі спаліць. З ляска немцаў абстралялі, яны разбегліся па кустах. Мы, хлапчукі, бяжым туды — збіраць трафеі. Ляжаць у траве мінамётныя міны, тэрмасы для дастаўкі ежы, нейкія скрынкі. Бяром цукар, кансервы, буханкі шэрага хлеба ў поліэтыленавых пакетах, плаўлены сыр у бляшанках. Здзівіла тое, што у трох катлах яшчэ не астылі наварысты боршч, плоў са слівамі, кава. Нядрэнна харчаваліся гітлераўцы нават на пятым годзе вайны. Што ж, уся Еўропа працавала на іх.

А па вуліцы партызаны ўжо вядуць двух захопленых у палон нямецкіх салдат, якія ноччу адбіліся ад сваёй адступаўшай часці і заначавалі ў жыце. Яны нешта бармочуць пра лагер ваеннапалонных, партызаны адказваюць: «Так, так — у лагер». А мінут праз пяць тых палонных расстрэльваюць у кустах. Хто тады думаў пра той лагер.

Пад вечар пачалася зацяжная артылерыйская перастрэлка ў прыгарадах Слуцка. Гараць тутэйшыя вёскі Міхейкі, Ячава. Сцяна агню і дыму стаіць над горадам. Да яго падышлі і абкалалі з трох бакоў (як пазней я даведаўся) два стралковыя карпусы 28-арміі, гвардзейскі кавалерыйскі корпус, два асобныя танкавыя палкі і адна танкавая брыгада, 37-я механізаваная і 1-я артылерыйская супрацьтанкавая брыгады. Але пачынаць начны штурм добра ўмацаванага горада не адважваюцца: навошта лішнія страты.

...Іду на начлег за вёску, выбіраю капу сена, зарываюся. Толькі задрамаў, як быў разбуджаны ніколі не чутым раней «жалезным» скрыгатаннем з пасвістам, што данёсся з боку вёскі Малая Сліўка. Глянуў у той бок і ўбачыў некалькі вогненных шароў, што панесліся над зямлёю да ахопленага полымем Слуцка. Праз некалькі секунд адтуль даляцелі раскаты выбухаў. То быў залп «кацюш». Назаўтра цэлы дывізіён іх нанёс сакрушальны ўдар па гітлераўцах, што стрымалі наступленне нашых воінаў на чыгуначнай станцыі.

Прачнуўся гадзін у дзевяць раніцы. З боку Слуцка даносілася кананада. З кустоў выехаў на куцым калмыцкім коніку наш салдат. Без пагонаў на гімнасцёрцы, з карабінам праз плячо. Мы прывіталіся. Я пачаставаў салдаціка нямецкімі трафейнымі цыгарэтамі. Ён закурыў, потым таропка, мацюкнуўшыся, сарваў з-за пляча карабін і пачаў страляць па звінеўшым над намі нямецкім самалётам. «Надаелі гады, цэлы дзень як чмялі гудуць, хоць бы нашы іх папужалі», — сказаў салдат і паехаў далей.

Калі ж нямецкі аэрадром каля Баранавіч быў заняты савецкімі воінамі, налёты спыніліся. А ў небе шасцёрка за шасцёркай праляталі на захад штурмавікі «Іл-2" пад прыкрыццём знішчальнікаў. Фронт ужо адкаціўся на Капыльшчыну і Клеччыну. Ініцыятыва зноў была ў руках воінаў-вызваліцеляў.

*Міхаіл ТЫЧЫНА.*

Вось так і жывём

# МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ СПРАВА

**У пракурорскай практыцы Міхаіла Каляды падобная крымінальная справа яшчэ не сустракалася. Уражвае яна не сваёй шматэпізоднасцю, а маштабнасцю. Уявіце сабе: у вір злачынных дзеянняў аказаліся ўцягнуты каля трох дзесяткаў падлеткаў і маладых людзей, узроставы бар"ер якіх не дацягвае нават да дваццацігадовай адмеціны. Школай, калектывамі, суседзямі некаторыя з іх характарызуюцца станоўча, большасць — пасрэдна і толькі трое — адмоўна.**

Такім чынам злачыннасць, набываючы масавы характар, становіцца нібыта незаўважнай для грамадства, для нас з вамі. Патэнцыяльным злодзеем, аказваецца, можа быць і мілае суседскае хлапчанё, якое, калі і заўважалася ў чым адмоўным, дык толькі ў пакурванні цыгарэт у цёмным кутку альтанкі.

А між тым гэтыя хлапчаняты аказваюцца потым здольныя на ўчынкі, якія "цягнуць" на адпаведныя артыкулы Крымінальнага кодэкса. Так і ў "Маладзечанскай справе". Пачыналася яна з крадзяжу музычных інструментаў з сельскага Дома культуры. Завяршылася прад"яўленнем абвінавачвання членам звязаных паміж сабой дзвюх злачынных груп па васьмі артыкулах Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Скрупулёзна і тонка папрацавала следчае аддзяленне Маладзечанскага ГРАУС, а да гэтага — крымінальны вышук. Няпроста было раскрыць дзесяткі крадзяжоў, вылавіць тую нітачку, якая пацягнула за сабой клубочак.

У любога злачынства ёсць прычыны, пабуджальны матыў, ёсць пэўная логіка яго ажыццяўлення. Нездарма, абапіраючыся на лагічныя законы, вядомы герой Конана Дойля знаходзіў выхад у самых заблытаных сітуацыях. У нашым жа выпадку з логікай было не ўсё ў парадку. Але і яе адсутнасць нацэліла аператыўнікаў на думку, што крадзяжы могуць быць учынены падлеткамі, якія захацелі "прыгожа пажыць".

Мяркуйце самі. Украдзена музычная апаратура з Хожаўскага Дома культуры. Праз некалькі месяцаў крадзеж паўтараецца. Відавочна, палічылі, што не ўсё ўзялі. Музычны камп"ютэр "Ямаха", магнітафон... Нядрэнны, прама скажам, улоў. Праўда, юныя злачынцы не грэбавалі і дробяззю. У сталовай вёскі Хожава задаволіліся цыгарэтамі, шампанскім... Тут,на месцы, і выпілі.

Чым прыглянуўся хлопцам гэты дом у вёсцы Берташкі, сказаць цяжка. Але залазілі ў яго двойчы. На першы раз вынеслі дваццаць літраў самагону. Наступны — дывановую дарожку, пяцьдзесят лыжак, некалькі талерак, відэльцаў,... лялькў. Падлеткі чысцілі падвалы, гаражы, кіёскі малых прадпрыемстваў. Адзін з іх не пабаяўся арганізаваць крадзеж грошай з магазіна, у якім сам жа і працаваў.

Трое былі ўзяты на месцы злачынства супрацоўнікамі вілейскай міліцыі. Хацелі ўгнаць аўтамашыну з гаражнага кааператыва. У запале страцілі пільнасць. Крымінальная справа была амаль поўнасцю раскручана следствам, калі здарыўся страшны выпадак. Адзін з членаў злачыннай групы ўгнаў аўтамашыну з вясковай вуліцы. Быў нецвярозы, не справіўся з кіраваннем. Загінуў.

Вымаганні, разборкі, падзел крадзенага, барацьба за лепшы кавалак — усё было між імі. Аб усім яны блытана і непаслядоўна расказвалі следчым. Нягледзячы на юны ўзрост, многія з гэтых падлеткаў у сваім "паслужным спісе" ўжо мелі дробныя крадзяжы, іх паводзіны разглядаліся на пасяджэннях камісіі па справах непаўналетніх. Адзін нават пасля ўзбуджэння крымінальнай справы злаўчыўся ўчыніць яшчэ адзін крадзеж. Так што гаварыць аб прававой недасведчанасці маладых людзей не даводзіцца. У непазбежнасці пакарання наўрад ці хто з іх сумняваўся. Дзёрзка, нахабна, заліваючы натуральны чалавечы страх крадзеным спіртным, маладыя злачынцы ішлі напралом. Дыяпазон дзейнасці злачынных груп разрастаўся, як снежны камяк. Пры знаёмстве з абвінаваўчым заключэннем ствараецца ўражанне, што падлеткі без асаблівага супраціўлення ўцягваліся ў кола супрацьзаконных учынкаў. Крадзеж з падвала шматкватэрнага дома ў горадзе Маладзечне бачылі два падлеткі. І замест таго, каб паведаміць аб гэтым у міліцыю ці хоць сарамліва адвярнуцца, сталі разам прыхоўваць украдзенае: 12 літраў кампоту, 9 — варэння, дзесяткі бутэлек каньяку, настойкі, гарэлкі, 80 літраў самагону. /Ці не праўда, змесціва нашых падвалаў красамоўна сведчыць аб нашым укладзе жыцця. Але гэта ўжо тэма для асобнай размовы/.

Ну а што ж, скажаце, у сем"ях? Не бачылі, што ў падлеткаў час ад часу з"яўляюцца рэчы, на якія ім грошай не давалі, жвачкі, спіртное, шакалад. Вось што расказалі на судзе самі бацькі:

— Да арышту сына аб учыненых ім злачынствах не ведала. Прыходзіў позна — гаварыў: быў у сяброў...

— Аб крадзяжы з ФАПа ў вёсцы Хожава сын расказаў сам. Пра астатнія — не ведала.

— Сыны вярталіся дамоў позна, было, і зусім не начавалі. Бачыла ў іх жвачкі, цыгарэты. Некалі прынеслі 2 пачкі пральнага парашку. Што яны ўкралі — не ведала.

— Сын гаварыў, што быў у бацькі, з якім мы ў разводзе.

— Даведалася толькі ад міліцыі.

— Старэйшы сын нічога не расказваў, малодшы, бывала, гаварыў.

— Сын расказаў пра крадзеж са сталовай. Гаварыў, што гэта прапанаваў нехта са старэйшых...

Вышэйпрыведзеныя кароценькія маналогі гучаць ад імя маці. І барані мяне Бог ад жадання кінуць у іх камень. Яны — самы пакутны бок. Ведаючы, здагадваючыся, праводзячы бяссонныя ночы, маці баяліся прызнацца сабе ў самым страшным. І на суд, які цягнуўся не адзін дзень, яны, а не мужчыны, прыходзілі законнымі прадстаўніцамі сваіх непаўналетніх дзяцей. Фемінізацыя сямейнага выхавання, якая ў нас, дарэчы, набыла масавы характар, ужо прынесла свае горкія плады.

Адзін мой знаёмы сказаў, што ён можа кожны дзень прыносіць сваім хлопчыкам звязку бананаў, што для іх не ў навіну свежыя памідоры, што ў іх ёсць свой камп"ютэр і яны ўжо вучацца праграміраваць. Ён не хваліўся, не. Наадварот, разважаў, што часам адчувае сябе ніякавата, ведаючы, што і дзесятай долі гэтага не маюць суседскія дзеці. Мой знаёмы — не жулік і не злодзей. Ён — прадпрымальнік. Дарэчы, не з тых купі-прадай... Трымае свой цэх, займаецца вытворчай дзейнасцю. Адным словам, свой рубель зарабляе сумленна. Раней мы жылі аднолькава, сёння — жывём па-рознаму. Але ці падрыхтавана наша псіхалогія да падобнай "несправядлівасці". Безумоўна, не. Адсюль, напэўна, і анамаліі ў паводзінах нашых дзяцей. Ці ўстрымаецца хто з нас, каб не абмеркаваць за вячэрнім чаем новае футра суседкі і яе, на наш погляд, сумніцельныя даходы? Дзеці больш абвострана ўспрымаюць свет і пачынаюць перарабляць яго па свайму разуменню. Нам яшчэ вельмі далёка да грамадства роўных магчымасцей. Нават для таго, каб прадаваць цыгарэты на гарадскім рынку, трэба мець нейкі першапачатковы капітал. А каб не баяцца пры гэтым кантактаў з праваахоўнымі органамі — яшчэ і пасведчанне аб індывідуальнай прадпрымальніцкай дзейнасці. Усё гэта грошы...

Не хачу, каб хтосьці мяне сёння ўпікнуў у тым, што я нейкім чынам імкнуся апраўдаць злачынцу. Не апраўдаць, а зразумець, чаму мы менавіта цяпер сутыкнуліся з тым валам злачыннасці, асабліва падлеткавай, з якім часам няпроста справіцца праваахоўнікам? Нельга вылечыць хваробу, не ведаючы яе прычын. Вопытны доктар, перш чым назначыць лячэнне, вывучае хворага. Чаму ж мы больш вінавацім у грамадскай бядзе тых, хто закліка磁ны змагацца з вынікамі палітычных і эканамічных катаклізмаў, а не тых, хто ствараe апошнія?

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

*Мікалай Грудзінскі,*

*дырэктар Дулебскага дзіцячага дома-школы-дзіцячага сада:*

# "Гісторыя кожнага народа — гэта сукупнасць летапісаў..."

**Дулебскі дзіцячы дом-школа-дзіцячы сад. Непрывычныя для слыху словы. Такая навучальная ўстанова пакуль адзіная ў Беларусі. Але ў яе вялікае будучае , аб гэтым засведчыў вопыт дулябчан, чые педагогі першымі ў рэспубліцы ў агульнашкольны план навучальна-выхаваўчай работы ўключылі народную педагогіку, самі напісалі дапаможнікі па вывучэнню гістарычнай і культурнай спадчыны роднага краю, сцэнарыі падрыхтоўкі і правядзення святаў, гутарак і сустрэч, адметная рыса якіх — шырокае выкарыстанне фальклору, пабудаванага на мясцовым матэрыяле, глыбокае пранікненне ў беларускія нацыянальныя традыцыі. Аб усім гэтым расказвае нашаму карэспандэнту дырэктар навучальнай установы М.У.Грудзінскі.**

***— Мікалай Уладзіміравіч, ваша дзяцінства прайшло пад Мінскам. Расказваюць, што з вокнаў бацькоўскай хаты вам можна было ўглядвацца ў сталічныя гмахі, чуць рытм заводскіх цэхаў, а вы махнулі на Бярэзіншчыну, у самую яе глыбінку.***

— І вельмі шчаслівы, што трапіў у Дулебы. Педагагічны калектыў тут працавіты, з якім, вобразна кажучы, горы можна звярнуць.

***— Во-во. Пра горы і будзе маё другое пытанне. Нядаўна адбылася абласная нарада дырэктараў школ-інтэрнатаў і дырэктараў дзіцячых дамоў. Вось там і паказалі нам цэлую "гару" дапаможнікаў, падрыхтаваных педагогамі з Дулебаў. Чытачам, напэўна, будзе цікава даведацца пра гэтыя выданні.***

— Давайце вернемся ў той час, калі пачалося адраджэнне беларускай нацыянальнай школы. Які тады ўсчаўся лямант: дзе падручнікі, нагляднасць? Мы не далучыліся да хору такіх крыкуноў. Распрацавалі праграму "Спадчына", галоўная мэта якой — выхаванне школьнікаў на народных традыцыях роднага краю. Чым кіраваліся, вылучыўшы менавіта такую педагагічную праблему? Зыходзілі з таго, што адраджаць духоўнасць асобы трэба на аснове гістарычнай і нацыянальнай спадчыны, на традыцыях сваіх продкаў. На мой погляд, інакш і быць не павінна, бо гісторыя кожнага народа — гэта сукупнасць летапісаў кожнай асобнай мясцовасці, кожнай маленькай вёсачкі, кожнага чалавека. Для ўсіх нас паняцце Бацькаўшчыны пачынаецца з роднага дома, з навакольных лясоў, лугоў і рэчак, з песень бабуль і бацькоў. Адным словам, без непасрэднай сувязі дзяцей са спадчынным фактарам духоўнае адраджэнне немагчыма. Падручнікаў такіх, акрамя нас саміх, ніхто не напіша.

Сёння ўжо смела можна гаварыць аб тым, што ў нас склалася пэўная сістэма работы, якая ахоплівае розныя формы як урочнай, так і пазаўрочнай дзейнасці. Напрыклад, для вучняў V—IX класаў уведзены факультатыўны курс "Спадчына майго краю", які складаецца з шасці раздзелаў. Гэта — "Гісторыя Беларусі", "Гістарычная спадчына Бярэзіншчыны", "Культурная спадчына раёна", "Бярэзіншчына — партызанка", "Экалогія раёна", "Дулебы — вёска гістарычная". На вывучэнне кожнага раздзела адводзіцца па 36 гадзін у год. Чытаецца курс па прынцыпу "нулявога ўрока" перад пачаткам навучальных заняткаў, што дазваляе стварыць у вучняў адпаведную эмацыянальнасць на ўвесь дзень.

***— Пра якасць такіх заняткаў не будзем гаварыць. Ім нядаўна дала высокую ацэнку калегія Міністэрства адукацыі рэспублікі, якая праходзіла на базе вашай навучальнай установы.***

— Сапраўды, наш вопыт заўважаны, вывучаны. Хачу павесці размову пра нашу сельскую навукова-практычную лабараторыю па сацыяльнай педагогіцы і сацыяльнай рабоце. Узначальваю яе я. Наша лабараторыя даследуе тэмы: "Выхаванне дзяцей у сельскім мікрараёне сродкамі народных традыцый, нацыянальнай культуры" і "Сацыяльная адаптацыя дзяцей-сірот у сістэме грамадскага выхавання ва ўмовах сельскага мікрараёна". Зроблена ў гэтым напрамку нямала. Атрымліваем шмат пісьмаў, у якіх выказваюцца просьбы даслаць нашу друкаваную прадукцыю. Вялікім аўтарытэтам карыстаецца ў настаўніцкіх калектывах наш дапаможнік "Народныя педагагічныя традыцыі ў сістэме грамадскага выхавання па месцы жыхарства". Ён выйшаў пад рэдакцыяй загадчыка кафедры педагогікі Мінскага педагагічнага універсітэта А.Грымаца і загадчыцы кабінета выхаваўчай работы абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў Г.Фаміной.

Зазначу, што наша школа афармлена ў духу народных дэкаратыўных і мастацкіх традыцый. Сцены пакояў дзіцячага дома і дзіцячага сада распісаны сюжэтамі з народных казак, школьныя класы ўпрыгожаны шматлікімі стэндамі, якія даносяць да вучняў інфармацыю аб паходжанні Дулебаў, знаёмяць іх з народнымі прымаўкамі і прыказкамі. Паўсюдна — мноства зеляніны і кветак. І гэта не самамэта. Мы перакананы, што ў афармленні школьных памяшканняў — магутны выхаваўчы патэнцыял, які садзейнічае ўсталяванню здаровага псіхалагічнага мікраклімату ў дзіцячым супольніцтве. Ёсць жаданне і ў школьную форму ўвесці традыцыйныя элементы беларускага нацыянальнага адзення.

Прыкметнае развіццё ў школе набылі формы клубнай дзейнасці. Мэтанакіравана працуюць аб'яднанні "Фальклярыст" і "Крыніца". Удзельнікі першага сабралі шмат народных песень, прыпевак, плачаў, галашэнняў, якія вучаць мудрасці і зычлівасці, адлюстроўваюць трапнасць назіранняў нашых продкаў. Актыўнасцю вызначаюцца хлопчыкі і дзяўчынкі з секцыі народных гульняў, танцавальнага гуртка "Лявоніха", фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Дулебскія самародкі", гуртка прыкладнога мастацтва "Умельцы". У "Крыніцы" аб'ядналіся аматары мастацкага слова. Частыя госці гэтага клуба — літаратары Бярэзіншчыны.

***— Мікалай Уладзіміравіч, чуў, што да вас у школу прыязджаюць навучыцца народным гульням. Чым гэта выклікана?***

— Нашымі нястомнымі пошукамі. Сельская навукова-практычная лабараторыя па сацыяльнай педагогіцы і сацыяльнай рабоце, на якую я спаслаўся ўжо, выдала два метадычныя дапаможнікі "Беларускія народныя гульні". Апошні — тэматычны, разлічаны на дашкольнікаў і пачатковыя класы. Прапанаваныя гульні (я — укладальнік зборніка) можа праводзіць выхавальнік, педагог, арганізатар дзіцячага адпачынку. У кожнай гульні — гумар, народная дасціпнасць, жаданне рухацца, бегчы. Такія гульні вучаць дзяцей праяўляць кемлівасць, выклікаюць жаданне спаборнічаць па-добраму, з павагай ставіцца да сваіх таварышаў, выпрацоўваюць спрыт.

***— Застаецца вам падрыхтаваць зборнік, прысвечаны народным святам.***

— Амаль на цэлы год вы спазніліся задаць мне такое пытанне. Летась убачыў свет другі зборнік "Правядзенне ў агульнаадукацыйнай школе народных святаў, гутарак аб беларускіх славутасцях". Зборнікі разлічаны на педагагічных работнікаў і тых, каго цікавіць народная творчасць, спадчына продкаў. Сабраныя сцэнарыі святаў даюць магчымасць дзецям пазнаваць свой народ, яго багатыя традыцыі, звычаі, выканальніцкае майстэрства. Нашы юныя дулебцы ганарацца, што іх продкі былі такімі таленавітымі, умелі хараша і цікава адпачыць. Мы распрацавалі 30 народных святаў. Большасць з іх разлічаны на інсцэніраваны паказ у форме спектакля, а ёсць і такія, якія разлічаны на гутарку. Усё гэта спрыяе адраджэнню нацыянальнай і гістарычнай спадчыны нашых продкаў, іх мудрасці, дабрыні, празорлівасці.

***— Нядаўна, будучы ў адной са школ Чэрвеньскага раёна, даведаўся, што вы асабіста склалі зборнік "Магія імёнаў".***

— Яшчэ некалькі гадоў таму назад заўважыў, што дзеці вельмі цікавяцца паходжаннем свайго імя, імёнаў бацькоў, бабуль і дзядуляў. Вось тады я і вырашыў падрыхтаваць такі зборнік. Летась ён надрукаваны ў Чэрвеньскай друкарні. На такі дапаможнік вялікі попыт. Шкадую, што ён выйшаў малым накладам — усяго 150 асобнікаў.

***— А цяпер, паважаны дырэктар, некалькі слоў пра новыя формы дашкольных устаноў.***

— Я вам ахвярую невялічкую кніжачку "Дулебская краіна дзяцінства", якую напісаў сумесна з журналісткай Ліліяй Зізіка. Там і знойдзеце адказы на сваё пытанне. А для чытачоў паведамлю: нашу навучальную ўстанову смела можна назваць сапраўдным Домам дабрыні і міласэрнасці. Пад адным дахам тут дружна ўжываюцца малышы і падлеткі, дзеці-сіроты і вясковыя дзеці. І, як паказала практыка, такое суседства цалкам апраўдала сябе. У дзяцей-сірот, якія трапілі сюды, хутчэй праходзіць перыяд адаптацыі. Праводзячы амаль увесь час са сваімі равеснікамі з сем'яў, бываючы ў іх дома, адчуваючы на сабе клопат і любоў дарослых, яны хутчэй забываюць пра сваё сіроцтва, іх маленькія сэрцы напаўняюцца радасцю. Яшчэ адна перавага нашага дзіцячага дома ў тым, што дзеці ў нас жывуць сем'ямі. Звычайна малышоў з адной сям'і афармляюць у розныя дзіцячыя дамы: то па ўзросту не падыходзяць, то па псіхічнаму развіццю, то па іншай якой прычыне. Сталеючы, яны забываюць, адчужаюцца адно ад аднаго. У Дулебах жа амаль усе 32 выхаванцы-сіроты маюць брацікa ці сястрычку. Ёсць нават па 4—7 чалавек з адной сям'і. У нас у гэтым кірунку набыты пэўны вопыт, выпрацавана свая сістэма выхавання дзяцей. Навучанне і выхаванне грунтуюцца на глыбокіх нацыянальных каранях.

І, бадай, апошняе. Чаму менавіта ў Дулебах "прапісалася" такая ўстанова? Вёска наша трапіла ў свой час у разрад неперспектыўных. Школу-васьмігодку меркавалася закрыць. Вось і асмеліўся я стварыць у Дулебах своеасаблівы комплекс: спачатку спалучылі школу і дзіцячы сад, а потым запрасілі сюды жыць дзяцей-сірот. Аднаму б мне не справіцца з такой складанай задачай. Таму вельмі ўдзячны сваім аднадумцам—настаўнікам, выхавальнікам, кіраўнікам мясцовай гаспадаркі, работнікам аддзела адукацыі райвыканкома. Прозвішчаў не згадваю — усе яны працавітыя, творчыя, ініцыятыўныя людзі.

**...Мікалая Уладзіміравіча Грудзінскага нярэдка называюць дулебскім самародкам, бярэзінскім Сухамлінскім, педагогам з вялікай літары. Уважліва прааналізаваўшы дапаможнікі, выдадзеныя ім, сведчу, што ні ў адным з гэтых азначэнняў няма перабольшання.**

*Уладзімір КОБРЫН.*

# Створанае застаецца

## З фондаў абласной бібліятэкі імя А.С.Пушкіна

Пра вялікага беларускага паэта Максіма Багдановіча, стагоддзе з дня нараджэння якога па прапанове ЮНЕСКО адзначалася ў 1991 годзе на ўсёй планеце, расказвае відэафільм "Максім Багдановіч. Сто". Фільм-партрэт "Васіль Быкаў. Праўдай адзінай" прысвечаны народнаму пісьменніку Беларусі.

Фільм пра творчасць пісьменніка, паэта і драматурга Уладзіміра Караткевіча "Рыцар і слуга Беларусі" разлічаны на школьную праграму вучняў 8—10 класаў. Кінафільм "Адам Міцкевіч: маленства край, ты вечна з намі" апавядае пра радзіму вялікага паэта — Навагрудчыну. У кінастужцы замест дыктарскага тэксту гучаць вершы паэта. "Якуб Колас. Мой родны кут" — кінафільм пра родныя мясціны класіка беларускай літаратуры. "Максім Лужанін расказвае" — дакументальны фільм аб лёсе беларускай інтэлігенцыі, пісьменніках, паэтах, аб складаным творчым жыцці старэйшага беларускага паэта.

Беларусы здаўна знаёмы з тэатральным мастацтвам. Развіццё тэатра ў нашай рэспубліцы ішло па розных напрамках. Перш за ўсё, неабходна сказаць пра скамарохаў з іх тэатралізаванымі прадстаўленнямі. Да XVI стагоддзя адносіцца ўзнікненне такога арыгінальнага жанру, як лялечны тэатр "Батлейка". Крыху пазней набыла вядомасць народная драма. Паралельна з гэтым існаваў так званы школьны тэатр пры каталіцкіх манастырах і праваслаўных брацтвах. Пачынае дзейнічаць прыгонны тэатр.

Першым нацыянальным прафесійным пачынаннем была драматургічная і сцэнічная дзейнасць В.Дуніна-Марцінкевіча. З 1907 па 1913 год працаваў тэатр Ігната Буйніцкага, затым распачало сваю работу "Першае таварыства беларускай драмы і камедыі", якое заняло цэнтральнае месца ў тэатральным жыцці Беларусі.

Адкрыццё беларускага дзяржаўнага тэатра (які цяпер носіць імя Я.Купалы) адбылося 20 верасня 1920 года. Дзеячы тэатральнага мастацтва, беларуская інтэлігенцыя, шматлікія аматары тэатра бачылі ў гэтым пачатак росту мастацкай творчасці народа. У састаў трупы ў першыя гады ўваходзілі прафесійныя акцёры, а таксама ўдзельнікі аматарскіх аб'яднанняў. У 1930 годзе Першы Беларускі драматычны тэатр (так ён называўся з 1926 года) прымае ўдзел ва Усесаюзнай тэатральнай алімпіядзе ў Маскве. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, калектыў тэатра быў эвакуіраваны ў Сібір. Артысты даюць канцэрты ў шпіталях, ствараюцца дзве франтавыя брыгады. У Мінск калектыў вяртаецца ў 1944 годзе. Тэатр заўсёды займаў баявыя пазіцыі, змагаўся за сугучны часу рэпертуар. Майстэрству акцёраў тэатра былі ўласцівы псіхалагічная глыбіня і жыццёвая праўда. Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр займае адно з вядучых месц у сузор'і тэатральных калектываў рэспублікі. Цяпер на сцэне тэатра з поспехам ідуць многія спектаклі. Фільм-спектакль "Тутэйшыя" па п'есе Янкі Купалы прысвечаны станаўленню беларускай нацыі, умацаванню яе самасвядомасці. Сучаснае прачытанне п'есы рэжысёрам Мікалаем Пінігіным ставіць яе ў рад самых актуальных твораў. У пастаноўцы В.Раеўскага "Страсці па Аўдзею" расказваецца аб трагічных падзеях у беларускай вёсцы ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў. Фільм-партрэт "Такі вось Аўсяннікаў" прысвечаны творчасці акцёра Г.Аўсяннікава. У фільме "Маналог працягваецца" апавядаецца аб творчасці народнай артысткі рэспублікі, актрысы тэатра і кіно Марыі Захарэвіч.

Адкрыццё Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі (1933 г.) мела вялікае значэнне для развіцця музычнай культуры рэспублікі, з'явілася пачаткам станаўлення і росквіту беларускага опернага мастацтва. У першыя гады існавання тэатра былі пастаўлены шэдэўры рускай і замежнай класікі "Князь Ігар" А.Барадзіна, "Рыгалета" Дж.Вердзі, "Пікавая дама" П.Чайкоўскага і інш. Іменна ў той час зарадзіліся традыцыі тэатра, на якіх вучылася не адно пакаленне майстроў сцэны. Тэатр умацоўваў сувязі з беларускімі кампазітарамі. Ужо на першай дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 годзе тэатр паказаў чатыры нацыянальныя спектаклі: "Міхаіл Падгорны" Я.Цікоцкага, "У пушчах Палесся" А.Багатырова і інш. Айчынная вайна не спыніла творчае жыццё калектыву. Брыгады артыстаў давалі канцэрты для воінаў, выступалі на сцэнах Масквы, Саратава, іншых гарадоў. Восенню 1944 года тэатр вярнуўся ў Мінск, дзе адразу ж пачаў праводзіць вялікую работу па аднаўленню класічнага рэпертуару і стварэнню новых нацыянальных спектакляў. За час сваёй творчай дзейнасці Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі сканцэнтраваў вакол сябе музычныя сілы рэспублікі, стаў цэнтрам культуры, школай высокага сцэнічнага майстэрства. З творчасцю тэатра можна бліжэй пазнаёміцца, паглядзеўшы фільмы-балеты ў пастаноўцы сусветна вядомага балетмайстра Валянціна Елізар'ева: "Рамэо і Джульета", "Дон Кіхот", "Кармэнсюіта", "Шчаўкунчык".

Гісторыя не знікае ў нябыццё. Яна жыве ў песнях людзей, іх культуры, памяці. На працягу ўсёй сваёй гісторыі беларускі народ стварыў высокаразвітую і арыгінальную архітэктуру. Дойлідства — гэта летапіс гісторыі народа. У гады цяжкіх выпрабаванняў гарады станавіліся для людзей надзейным домам, кузняй зброі, школай мужнасці і адзінства. Народ называў свае ўмацаванні замкамі. Фільм "Легенда пра замак Радзівіла" — аб старажытным горадзе Нясвіжы і яго галоўнай славутасці — цудоўным замкавым ансамблі былых князёў Радзівілаў. У фільме "Хроніка Мірскага замка" гаворыцца аб самым старажытным на Беларусі замку-крэпасці ў пасёлку Мір.

Калі чалавек спявае, у радасці і журбе, ён адчувае сябе лёгка і свабодна. Добра вядомы на Беларусі абрадавыя песні. Фільм "Мая песня" — усхваляваны аповяд пра Дзяржаўны народны хор Рэспублікі Беларусь. У кінастужцы "Песні роднага краю" расказваецца пра беларускія нацыянальныя абрадавыя песні, каляндарныя святы.

*Алена КЛЮЕВА,*
*загадчык аддзела культуры па мастацтву абласной бібліятэкі імя А.С.Пушкіна.*

■ З блакнота краязнаўцы

# Згубленая вёсачка

**На Пухаўшчыне Чарнобыль не нішчыў мястэчак і вёсак. Наадварот — прытулак свой у тутэйшых мясцінах пасля чарнобыльскай бяды знайшлі перасяленцы з "зоны". Ды ўсё адно знікаюць і ў гэтым куточку Беларусі вёсачкі.**

**Знікаюць, не пакідаючы за сабою ніякіх слядоў. Тапанімісты нават не разгадалі яшчэ іх назваў. У энцыклапедыях няма пра іх звестак...**

Штосьці падобнае атрымалася і з тым населеным пунктам Грабаўё, што калісьці жыў звычайным вясковым жыццём, у Пухавіцкім сельсавеце. Калі хто ведае, то знаходзіўся ён паміж цэнтральнай сядзібай калгаса імя Чапаева — Заціталай Слабадой і вёскай Раўчак.

Жыхары Заціталай Слабады расказваюць: некалі ў голае поле, паблізу лесу, прыехаў чалавек з прозвішчам Грабоўскі. Пачаў будавацца, хутар сабе ладзіць, сад садзіць. Кажуць, што і пасля рэвалюцыі яшчэ толькі адна сядзіба Грабоўскіх тут і была. Насыпаў пацiху Грабоўскі дарогу ад свайго хутара да Раўчака (усё ж там вёска, жытло).

Пасля да Грабоўскіх падсяліліся Белавусавы... І яшчэ нехта, і яшчэ нехта. Людзям працавітым, неспакойным даспадобы былі гэтыя мясціны. Лес... Зараз той вугал, што падыходзіць да колішняга Грабаўя, як быццам і без назвы, — вугал Старынкі. Сама ж Старынка — ёмісты лясны масіў. А раней гэты вугал быў тэрыторыяй заўважнай і адасобленай. Найперш — па назве. Звалі грабаўскі лес Хмялінец. А што ў прамежку паміж хвойнікам і полем, што парасло кустоўем і алешнікам, — усё гэта яшчэ і пятнаццаць-дваццаць гадоў Грабаўскімі лажкамі звалі. Першы Грабаўскі лажок... Быў і другі, і трэці... Арыенціры для грыбнікоў, для калгасных трактарыстаў, для пастухоў... Поле — Вялікае поле. Тут табе грабаўскім раздолле: жыта расло ў рост чалавека, радзілі бульба, грэчка...

Відаць, сялянам з Грабаўя крыху зайздросцілі ў вялікіх навакольных вёсках. Таму ж, пэўна, і казалі, жахаючыся, што невялікі ўраджай будзе, што збажына раней тэрміну пасохне: «А ў Грабаўі дождж ідзе...» Ужо шмат пазней, калі ў вёсачцы пры лесе засталося ўсяго некалькі хат, старыя людзі ў недалёкіх Пухавічах, напрыклад, казалі з болем, што губляецца колішняя маладосць і іх, як быццам вялікіх паселішчаў, і такое: «А што нам у цемені сядзець... Пойдзем вось у Грабаўё на танцы...»

А тады, перад калгасамі, заможнае грабаўскае жыццё пачало раскідвацца. Белавусавых, Ількевічаў раскулачылі. Мусіць, і яшчэ некага. Калгас (а тады ўвайшло Грабаўё ў раўчацкі «Ураджайны край») пазабіраў хаты. Зрабілі з беднаты адну брыгаду — так і жылі да вайны.

А як прыйшлі немцы, расказваюць жыхары навакольных вёсак, той-сёй вярнуўся ў Грабаўё. І, лічы, уся вёсачка — мужчынская яе палова — падалася ў паліцыю. Служылі ў Пухавічах, яўрэйскім мястэчку. Пазаймалі чужыя хаты. А ў сорак чацвёртым з немцамі ўцякалі. Ужо з самай Германіі іх паварталі.

А Грабаўё жыло яшчэ пасля вайны. Праўда, распалася брыгада. На працу хадзілі ў Раўчак — на ферму, паляводствам займаліся... Ды і той «Ураджайны край» наказаў доўга жыць — уліўся ў калгас імя Чапаева. А людзі патроху з Грабаўя раз'язджаліся: і непадалёк — у Баравую (і яна сёння вымірае), і ў мястэчка Пухавічы, і ў Маркаўшчызну, што бліжэй да шашы, да аўтобуснага маршруту, ды і на Раўчак...

Новая бяда напаткала Грабаўё: вайскоўцы вакол вёскі палігон наладзілі. Танкі, разбітыя палеткі, траншэі, што апярэзвалі і поле, і лес, нібыта ў вайну... Заняткі, вучэнні, у лесе — машыны, ахова... Часам боязна і па грыбы хадзіць. Так і разбегліся ўсе з Грабаўя. Хаты хто вывез, хто прадаў. Спачатку следам адметным заставаліся багатыя на яблыкі, грушы, слівы сады. Цяпер і ў іх аблічча колішняй прыналежнасці да вёскі не відно. Як не відно і следу грабаўскога. А колькі тых фальваркаў, засценкаў страчана намі ў мінулым стагоддзі?! Колькі хутароў знікла і ў дваццатым?! Колькі вёсак і вёсачак вымірае зараз, на нашых вачах?!

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,*
*краязнаўца.*

**Юрий Владимирович Андропов (15.06.1914 г.—9.02.1984 г.) — одна из самых ярких, противоречивых и загадочных фигур советского периода нашей истории. Через десять с лишним лет после смерти Ю. В. и в канун его 80-летия сын Андропова, посол по особым поручениям Российского МИДа Игорь Андропов, дал корреспонденту «КП» свое первое развернутое интервью, в котором рассказывает о наиболее драматических периодах жизни и деятельности отца. Естественно, суждения Игоря Юрьевича во многом субъективны. Но они искренни и интересны тем, что позволяют по-новому взглянуть и на день вчерашний, и на день сегодняшний...**



Ю. В. Андропов с женой Татьяной Филипповной, сыном Игорем и дочерью Ириной. Петрозаводск, 1947 г. Фото из семейного архива Андроповых.

*Игорь АНДРОПОВ:*

# ОТЕЦ НЕ СОБИРАЛСЯ ТАК РАНО УХОДИТЬ

**— Юрия Андропова многие наши соотечественники до сих пор вспоминают без зла, а некоторые — с чувством больших, но несбывшихся надежд. Как вы думаете, почему?**

— Мне не очень сподручно отвечать на этот вопрос. И все же... Думаю, борьба с коррупцией, которая велась и органами госбезопасности, и отцом задолго до того, как он стал генсеком, громкий «аккорд» этой борьбы в последние месяцы его жизни получили, в общем-то, достаточно широкое признание и, видимо, были симпатичны людям. Во-вторых, с именем Ю. В. (обычно мы так называли отца) связаны попытки как-то перестроить нашу экономику. Потом — борьба за укрепление дисциплины...

А буквально на втором месяце пребывания на посту генсека Ю. В. поставил вопрос ребром: нам нужно разобраться с тем обществом, которое мы построили. Это была очень серьезная заявка. Сейчас многие говорят, что Андропов являлся всего лишь мини-реформатором, перетасовывающим кадры партноменклатуры. Уж поверьте мне — у Ю. В. были очень большие радикальные замыслы. Не случайно и в народе появились весьма масштабные надежды...

**— Чем же тогда объяснить то обстоятельство, что ваш отец, имея закваску реформатора, на протяжении многих лет безропотно служил брежневскому режиму с его застойной политикой? А неужели он не видел, что творится в ближайшем окружении Леонида Ильича?**

— Конечно, отец был человеком строгим, принципиальным, и то, что происходило в окружении Брежнева, было для него не только неприемлемым, а вызывало бурную реакцию. Но, поймите, у Ю. В. был и другой комплекс: отец очень боялся того, что мы называем «раскачиванием лодки». Его ортодоксальное отношение к единству в Политбюро можно объяснить также уроками всей нашей истории в целом, когда дорога к личной власти проходила по ступенькам раскола в руководящем эшелоне, а в частности — уроками и 1957 года, ознаменованного борьбой с «антипартийной группой», и 1964-го, когда смещали Хрущева.

Да и потом, я бы не сказал, что в отношениях с Л. И. отец был таким уж безропотным.

**— В печати что-то не попадались факты, доказывающие обратное...**

— Однажды, это было в начале семидесятых, когда практически ни одна газета не выходила без обильных ссылок на Леонида Ильича, я не выдержал и спросил у отца: «Неужели тебе не понятно, что все возвращается на круги своя, только в еще более зловещей форме? Ведь в конце концов терпение у истории небезгранично». Отец взорвался: «Слушай, ты, умник! Думаешь, эти вопросы возникают только у тебя?» Я ответил, что так не думаю, потому, дескать, к тебе и обращаюсь... Ю. В. с большим раздражением, вроде как я ему наступил на больную мозоль, признался, что при случае прямо сказал Брежневу о «явных перехлестах», которые ассоциируются с «определенным временем». «Ну и что? В результате вот уже полтора месяца Леонид Ильич мне не звонит...»

**— Андропов в этом случае сильно рисковал. Мог бы запросто лишиться своего поста...**

— Но это был не единичный случай. Более того, насколько мне известно, было как минимум два момента, когда он всерьез подумывал об отставке.

Первый раз — в середине шестидесятых годов. Тогда в политбюро шла полемика по поводу развития страны. У отца была программа, во многом перекликающаяся с косыгинской. Другая линия, шелепинская, была ориентирована на «сильную власть».

Второй момент относится к середине семидесятых. Андропов в то время уже возглавлял КГБ СССР. Тогда в Советском Союзе наметился процесс «завинчивания гаек» во внутриполитической жизни. Отец понимал, что всему есть предел, и противился ужесточению санкций против инакомыслящих.

**— Но судьба диссидентов при Андропове была несладкой. Пятое управление КГБ, занимающееся работой с интеллигенцией, орудовало вовсю.**

Отец и сын

Фото Алексея УЛЬЯНИНА.

— Да, времена были жестокие. Но неизвестно, как бы все повернулось, если бы диссидентами занималась, к примеру, контрразведка. Ведь пятое управление имело возможность действовать гибче, чем другие структуры КГБ. В частности, если бы его не было, судьба наших диссидентов, уезжающих на Запад, как мне представляется, была бы намного драматичнее. Парадокс, но факт. В политбюро эту тактику Ю. В. разделяли далеко не все. И был период, когда разногласия дошли до такого накала, что отец всерьез подумывал об отставке с поста председателя КГБ.

**— Что же его остановило?**

— У него было железное сдерживающее начало: кто придет на смену?

**— Кого же Ю. В. в этой связи опасался больше всего?**

— Разные были люди, но одно время, несомненно, Щелокова, причем пуще огня! Отец довольно хорошо знал этого человека и четко представлял себе, что будет, если тот сядет в кресло председателя КГБ.

Ведь и без того дров тогда наломали немало. Вспомнить хотя бы эпизод, связанный с разгоном во второй половине семидесятых в Москве выставки модернистов.

Не раз возникали всякого рода эксцессы с Театром на Таганке. Андропов принимал на Лубянке Любимова, вел с ним очень обстоятельные разговоры. Известны случаи, когда Ю. В. вступался за этот театр.

**— Но ведь гонения на Сахарова и Солженицына — на совести Андропова...**

— Здесь не все так просто. Андропов воспринимал Сахарова как бы в двух проекциях. Он видел в нем и гениального физика, и критического мыслителя. Но Ю. В. был председателем КГБ — и этим все сказано. Это определяло его действия. Ведь Андропов существовал не в вакууме, а в очень четкой системе, которая не принимала Сахарова.

С Солженицыным вопрос еще более сложный. Александр Исаевич был бельмом на глазу у всего руководства. И в силу своей позиции, и в силу своего размашистого антисоветского стиля. Но даже в этом случае Ю. В. воспринимал его неоднозначно, и здесь в его позиции была некая раздвоенность. Он относился к Солженицыну, с одной стороны — как к явному оппоненту системы, с другой — как к художнику. Ю. В. считал исключительно талантливым «Матренин двор». Он весьма серьезно отнесся к «Одному дню Ивана Денисыча» и признавал, что это вещь актуальная и острая. Ю. В. лично, в общем-то, вполне принимал «Раковый корпус». Но трудно было ожидать, что у писателя, мыслителя Солженицына и у политика Андропова будут какие-то реальные точки соприкосновения.

По рассказам отца мне известно, что вопрос о Солженицыне очень долго обсуждался до его депортации, существовали разные «варианты». Думаю, в тех условиях отъезд Солженицына за границу был не самым худшим вариантом.

Но скажу вам откровенно: для самого Андропова все происходящее и с Сахаровым, и Солженицыным стало довольно сложной внутренней коллизией. Ибо у Ю. В. были моменты истины, когда он мог посмотреть на ситуацию со стороны и задаться вопросом: как оценят ее люди, наши соотечественники через годы, через десятилетия?

**Беседовал**
**Александр ГАМОВ.**

**Почему Ю. В. Андропов, зная о том, что является тяжело больным, все же согласился занять высшие посты в государстве? Как работалось и жилось ему в эти самые сложные и драматические месяцы? Правда ли, что Ю. В. «помогли» уйти из жизни? Почему он не позаботился о том, чтобы ему на смену пришел достойный преемник? Что было бы, если бы перестройка в СССР пошла «по Андропову»? На эти и другие непростые вопросы, связанные, в частности, и с личной жизнью Ю. В., Игорь Андропов отвечает во второй части интервью, которое будет опубликовано в следующем выпуске «КП» для субботнего чтения.**

